Год I. Красавік-Травень 1932 г. № 4-5.




Ты еси Петръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Мат. 16. 18.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

З Ь М Е С Т № 45.




# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.

„ год . . . . . 3. 50.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul Wielka 58.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

// ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Красавік-Травень. 1932 г. № 4-5.

# *Христосъ Воскресе!*



*На Сьвята Сьвятаў, Урачыстасьць Урачыстасьцяў, Вялікдзень, усім нашым супрацаўніком, падпішчыкам, чытачом і прыхільнікам, усім братом злучаным і нязлучаным праваслаўным, што сьвяткуюць паводле календару старога стылю, шчырыя пажаданьні багаслаўленьня Божага, каб усе сыны аднае Бацькаўшчыны злучыліся паміж сабою любоўю Госпада Ісуса Хрыста у аднэй Ягонай Усясьветнай Царкве.*

Рэдакцыя і Адміністрацыя „ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ“.

# Пасхальная радасьць.

*«Зіма ўжо мінула, дождж прайшоў, краскі паказаліся на зямлі, дасьпяваючыя вінаграды далі запах»...*
*(З Песьні Песьняў II.)*

Глянь ды ўніміся ад суму чорнага, а узняўшыся на крыльлях надземнае радасьці, сьпявай усімі струнамі душы твае — Хрыстосъ Воскресе!

Матанька, Беларусь мая мілая! Народзе мой, родны мне ня толькі крывёю, але перадусім Хрыстом! А як-жа мне да Цябе сяньня ў хвіліне бязьмернае радасьці зьвяртаціся? Якімімі славамі падзяліцца з Табою тою радасьцяй? Не, я грэшны, вусны мае дзіцячыя слабыя, няудольныя, але Той, Хто з гробу ўстаўшы, радасьць прынёс першай Матухне сваей Прачыстай, вітаючы Яе гэнымі вось натхнёнымі славамі Духа Сьвятога з біблійнае Песьні Песьняў — Той ды тымі-ж славамі і вас хай вітае! Я — немы сягоньня! Усхваляванае бо сэрца і вусны мае слоў не находзяць для выказаньня гэнай сьвяточнай радасьці. Німа адпавяднейшых слоў прывету, віншаваньня вялікодняга.

О душа хрысьціянская, беларуская душа... ў адзінстве веры й любові адроджаная, што разам са Спасам сваім купель мукаў вялікапятніцкіх перажывала й дзяліла, што пад крыжам Праўды ўкрыжаванае нязгодаю людзкою... разам з Марыяй Прачыстаю стаяла, што ў гроб самаадрачэньня разам з Сынам Чалавечым клалася — ўстань, устань! сьпяшайся разам з Ім аглядаць і зьбіраць кветкі радасьці! І пяяць разам з небам і зямлёю сьвяточныя веснавыя, мілагучныя гымны радасьці, вясельля і трыумфу!

---

Адкуль такая магутнасьць радасьці — пытаеце? — Нічога-ж прад нашымі вачыма не зьмянілася: і гора і крызыс той самы, і каўтунства дзікога бязбожніцтва тое самае і цямната, упярэджаньне, падзел той самы, й няволя тая самая і нядоля — дык німа чаго радавацца.

Брацьця! Ясьнейшы ад сонца маю на гэта адказ:

— Праўда з гробу ўстала! Бог наш, Ідэал наш, шчасьце наша з гробу ўстала! Сумленьне, вольнасьць наша з гробу ўстала: паводле нашага хаценьня магчымем ужо рабіць тое, што для нас карысна — вольнасьць сапраўдная з гробу ўстала!

З бязслаўнага гробу нізкіх похацяў і навыкаў грэшных, з гробу цемнаты, закарэласьці, гультайства і блуду, з гробу ўпярэджаньня й нязгоды!...

Ворага мы адчулі ды ўвідзелі — у граху!...

Брата ўвідзелі ў кожным чалавеку...

Айца міласэрнага ўвідзелі мы ў Богу!

Матку найшчырэйшую ўвідзелі мы ў Адзінай сьв. Апостальскай Рымскай Сусьветнай Цэрквы... Вось зоркі, краскі, дыямэнты распрамяняючыя затужанае вока нашае радульным агнём радасьці! Вось матывы і тоны, з якіх складаецца наш вялікодны гымн. Вось яснае жыцьцёдайнае сонца нашага адраджэньня! Крыніца Радасьці Нашай!..

У душах нашых, жалем пакутным ды разумным каяньнем перапаляных, бліснуў нанава ясны прамень жару любові Божай і бліжняга! Таму так лёгка цяпер нам раны штодзеннага гора, ярмо крыўды і трудоў крывавых пераварацьць самаахвярнасьцю, у кветкі з а с л у г а ў перад Богам і Бацькаўшчынай. Сьмерць і гроб ужо для нас не страшны, бо мы навучыліся ўжо як з гэнага гробу ўставаць: „Хрыстосъ воскресе изъ мертвыхъ, смертію смерть поправъ, и сушчымъ во гробѣхъ животъ даровавъ“...

І што-ж з таго, мой Браце, што на дварэ крызыс, цемната, нязгода, крыўда, няволя і гора? Што з таго? Калі яны для нас ужо няшкодны! Зло страціла сваю сілу! Праўда і Дабро абвесьціла па ўсім сьвеце свой аканчальны поўны трыумф!

Верыць нам толькі трэба моцна ў той трыумф! А верыць ня цяжка цяпер будзе пасьля цуду згробуўстаньня. Праз цуд гэны найпраўдзівейшы, якога нікому не ўдалося і ня ўдасца запярэчыць. Праўда аказала сваю ўсемагутнасьць! Верыць нам трэба! Бо вера толькі зродзіць любоў, здаваленьне з жыцьця, шчасьце, радасьць! Вера й утрываліць нам гэну радасьць навекі...

Пакінь журбу сумную, разьвесялі сэрца твае „бо ўжо мінула зіма, зіма гневу й граху мінула навекі!“...

*а. П. Татарыновіч.*





# Епіскап Пінскі Ж. Лазінскі.



26 сакавіка с. г. памёр Епіскап рымска-каталіцкі Ж. Лазінскі. На хаўтуры 29 сакавіка зьехалася ў Пінск 13 епіскапаў і каля 150 сьвяшчэньнікаў. Нябошчык быў вельмі паважаны ўсімі, хто яго толькі знаў. Агульна ўсе яго ўважаюць за сьвятога.

Паводле ягонай волі ня было на хаўтурох ніякай вонкавай шыкоўнасьці, нават і прамовы ня было, замест яе было прачытанае апошняе пісьмо Еп. Лазінскага да духавенства і верных яго Епархіі, зьмест якога падаём ніжэй.

# Пасьмертны ліст епіскапа Пінскага Ж. Лазінскага.



*У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін.*

МАЕ НАЙДАРАЖЭЙШЫЯ ЭПАРХІЯНЕ!

Не распачынаю свайго лісту звычайным пастырскім багаслаўленьнем, бо калі будзе Вам чытаны, ня буду ўжо Пастырам Вашым. Пішу яго ў часе рэколекцыяў, каторыя ўважаю за прыгатаўленьне да сьмерці. Кожныя рэколекцыі трэба ўважаць за такое прыгатаўленьне. Сьмерць знаходзіцца блізка кожнага з нас, а дзень Господні прыходзіць неспадзявана, як злодзей, паводле параўнаньня эвангелічнага. Даючы розныя перадсьмертныя распараджэньні хачу тут прыгатаваць для Вас, мае Найдаражэйшыя, некулькі слоў, і прашу, каб былі яны прачытаны ў часе маіх хаўтуроў, каб іх прынялі, як голас, прыходзячы да Вас з маей труны.

Няхай гэта будзе апошняя для Вас мая навука. Калі яе пішу, маю права яшчэ называць Вас дзяцьмі сваімі і з гэтага права карыстаю з поўнаю любоўю, каторую мне Бог уліў у сэрца, робячы мяне Вашым Духоўным Айцом.

Гэтая любоў родзіць і ўтрымлівае ў душы маей гарачыя жаданьні спаткацца з Вамі ўсімі ў Каралеўстве хвалы Божай і агляданьня Найсьвяцейшага Аблічча Господняга па ўсе вякі, ня інакш, як разам з Вамі.

Абавязкам маім было вясьці Вас да неба; як-бы хацеў, Дзеці мае Найдаражэйшыя, абавязак гэтае так выканаць, каб ніхто мне з Вас ня вымкнуўся, ніхто з Вас ня згінуў. Каб мог з радасьцю ўпасьці ў небе перад тронам Ісуса, завучы: „Госпадзі, вось тыя, якіх мне паверыў. Ёсьць тут усе, не бракуе нікога“. Як-жа хацеў-бы ўбачыць наймілейшы твар Маткі Нашай Найсьвяцейшай, гледзючай на Вас з усьмехам матчынай радасьці.

Дзеці мае! Вельмі няўдольна служыў я Вам, ані словам, ані прыкладам ня ўмеў быць Вашым праваднікам, якім быць належа. Выбачце мне віны мае... Але Вас любіў моцна і вельмі жадаў аддаць за Вас жыцьцё сваё цэлае, і заўсёды прасіў Госпада Ісуса, каб мне дазволіў шмат цярпець за Вас, і праз цярпеньне выслужыць Царкве тое,

чаго не магла асягнуць мая няўдольная праца. Вялікім голасам гэтае айцоўскае любові гавару да Вас — вось у гэтай хвіліне з таго ўжо сьвету: Пачуйце голас ня мой, але Божы: **Любіце Бога. Шукайце наўперад каралеўства нябеснага і справядліваcьці яго, а рэшта, якой патрабуеце** (Мат. VI. 32), **будзе вам дадзена.** (Мат. VI. 33). **Навярнецеся, а не грашэце. Пакутуйце, а верце ў Евангельле** (Мар. I, 15). **Пакутуйце, бо прыбліжылася каралеўства Божае.** Вось Судзьдзя Прадвечны ёсьць блізка, у дзьвярах (Мат. XXIV, 33.

Глядзеце аднак: мала разоў бачылі Вы мяне пры тым аўтары адпраўляючага набажэнствы, седзючага на тым троне, багаслаўляючага Вас. Слухайце: колькі разоў гаварыў да Вас, навучаў Вас і, хоць няўдольна, напамінаў Вас. Разам з Вамі маліўся за другіх памёршых. А вось іншы сягоньня правіць службу, а я, а лепш кажучы зямельнае цела маё ляжыць у гэтай труне бяз руху, бяз голасу, непарушнае, як зямельная брыла, бо толькі брылаю ёсьць і прахам. Чужога голасу мушу ўжыць, каб прагаварыць да Вас: жыцьцё маё скончылася, **ёсьць як-бы ніколі ня быў існаваў.** Але, Дзеці Мае. Сяньня мне, заўтра кожнаму з Вас. Учора быў я як адзін з Вас, заўтра Вы будзеце, як сяньня я ёсьць: нічога а душа перад судом Божым, атрымліваючая заплату, на якую запрацавала... На што-ж хочаце Вы запрацаваць? Ах, пакуль час: працуйце на неба, на агляданьне Бога, каб вечна мілаваць Яго і вечна радавацца з Ім. Перастаў Вам быць пастырам і айцом. Але не перастаў быць прыяцелям Вашым. Так асьмеліваюся пісаць, веручы міласердзю Айца Нябеснага, што мяне не адкіне ад Сябе навекі. А хто ня ёсьць на тым сьвеце адкіненым ад Бога, той ня толькі не перастае любіць сваіх прыяцеляў, але іх любіць шмат мацней і гарачэй. Быў я Вам усім бяз вынятку, ці мне хто з Вас быў прыхільны, ці не, прыяцелям шчырым і адданым, хоць не заўсёды, ізноў з прычыны няўдольнасьці сваей, умеў гэта аказаць. Тым больш буду ім у жыцьці за гробам. Але за тое аднае ласкі прашу ў Вас, Найдаражэйшыя: маліцеся за маю грэшную душу. Якраз для заахвочваньня Вас да шчырай малітвы прасіў, каб хаўтуры мае адбыліся бяз пустой парады, так супярэчнай із сумнай павагаю сьмерці. Скромнасьць на хаўтуроў бясспрэчна кожнага лепш пабуджае да малітвы, бо ўсякія парады перашкаджаюць толькі скупленьню ўвагі. Малацеся, мае Найдаражэйшыя, за мяне і і малецеся горача за тых, за каторых я меў і маю абавязак маліцца, а можа яго ня споўніў, як належыць. Малецеся за нас, каб малітвы Вашыя ня толькі ратавалі нас перад Госпадам, але каб мы з большым вынікам за Вас маглі маліцца.

О Божа, Судзьдзя Справядлівы і Збаўца наш: Ласцы Тваей і апецы даручаю гэтую частку Царквы Тваей, каторая мне праз Намесьніка Твайго была паверана. Дай ім

пастыра, каторы-бы лепей ад мяне кіраваў імі. Паручаю верна ў б. маей епархіі слугі Твае, а такжа дзеці Твае лянівыя і непаслухмяныя, і тых каторыя мяне за пастыра свайго не прызнавалі, і тых, што Цябе ня знали. Паручаю ласцы Тваей і асаблівай апецы маіх супрацоўнікаў, каторых прыяцелямі Сваімі Ты называў; паручаю гэтыя сэмінарыі, якія так горача любіў, з іх выхаванцамі, каб былі заўсёды сейбітамі цноты, сьвятасьці і апостальскага захопленьня. Аддаю пад Тваю апеку нявінных дзяцей; барані іх ад усякіх забойчых уплываў і небясьпекаў. Вазьмі пад выключны ўплыў ласкі Сваей яе вучыцялёў, праваднікоў і апякуноў. Аддаю Табе пад апеку сям'ю маю, прыяцеляў асабістых і душы, каторыя асаблівымі вузламі са мною зьвязаў; напраў Сваей ласкай упоўнасьці ўсё тое, у чым я ім ня прыслужыўся або зашкодзіў.

О Божа, выплаці паводле шчодрасьці Сваей усё дабро, якое толькі вінен каму. Паручаю Табе так-жа маю бедную зямную Бацькаўшчыну: зрабі з яе Каралеўства Тваё і Каралеўства Марыі, Маткі Тваей, і людзей яе злучы вузлом хрысьціянскай любові. Паручаю Табе ўлюблёную Літву і Латвію і Русь і тую Расею, для якой казаў нам працаваць і іншыя суседнія краіны і цэлы род людзкі — працу рук Тваіх і набытак Крыві Тваей. Распалі Божа ўсюды чэсьць Найсьвяцейшага Сэрца Твайго і пашыры культ Тайніцы Эўхарыстычнай. А Ты, Наймілейшая Матка Ісусовая і Наша, успамагай нас штодзенна малітвамі Сваімі і акрывай плашчам міласьці Сваей і, разам з усімі жыхарамі нябесными выпрасі нам усім збаўленьне вечнае і вечны адпачынак. Амін.

Няхай будзе пахвалены Ісус Хрыстос на векі вечныя. Амін.

Гнезна, 14 верасьня, у дзень Падвышэньня Крыжа Сьв., 1928.



# Дзе праўда?

Розныя протэстанты, ці тыя, што моляцца ў германскіх мовах, ці тыя, што моляцца паславянску і грэцку, закідаюць уніятам і рыма-каталіком, што яны прыпісываюць сьв. Пятру гэтакую ўладу, якой ён ад Хрыста не атрымаў і на гэтай як-бы выдумцы апіраюць усю ўладу рымскіх папаў. Дзеля таго, каб пераканацца, ці уніяты і рыма-каталікі мыляюцца ў гэтай справе ці не, прыгледзімся да Евангельля, каторае чытаецца ўва ўсіх праваслаўных цэрквах, і пабачым, што тамака сказана аб сьвятым Пятру Апосталу.

Усе верым, што Хрыстос ёсьць Царам, што Ён Божая Прамудрасьць і што Ён будуе сабе Царства, каторае называе „овчій дворъ“ (Іоан, 10, 15) або інакш Ягонай „Царквой“ (Мат. 16, 18). Калі Хрыстос выбірае з паміж вучняў галаўнейшых 12 апосталаў, то таксама з паміж іх выбірае сабе і Сымона, сына Іоны. Многа разоў Хрыстос сам называе сябе фундамэнтальным каменем (Мат. 21, 42; Мар. 12, 10 і Лук. 20, 18),—дае таксама Сымону новае імя, каторае ў мове арамейскай гучыць Кефа, а панашаму — Пётра, г. зн. фундамэнтальны Камень Царквы Хрыстовай. Калі Хрыстос даваў апосталам запытаньні, то ад усіх апосталаў адказ даваў Хрысту Сымон-Пётра, іх старшыня, іх зьверхнік.

Пакуль яны гэтага ня ведалі, то цікавіліся хто з іх будзе старшынёй. Хрыстос тады прыказаў ім быць слугамі ўсіх (Лук. 22, 24—31), а Сымону-Пятру Спасіцель кажа ўмацовываць братоў-апосталаў (Лук. 22, 32), хоць добра ведаў, што Пётра вырачыцца Яго на судзе ў першасьвяшчэньнікаў (Лук. 22, 34, 55—60); Сымону-Пятру Хрыстос дазваляе пытаць яго і адказываць іменем усіх Апосталаў, і нікому іншаму з Апосталаў, як толькі Сымону-Пятру Хрыстос даў ключы свайго Царства і ніводнага, як толькі Пятра, не назваў каменем Царквы.

Паважаныя чытачы ведаюць, якую ўладу Бог даў нашым першым бацьком Адаму й Эве над іх дзяцьмі. Такая ўлада перайшла на ўсіх сучасных бацькоў. Якую ўладу Хрыстос даў першым хрысьціянскім епіскапам, г. зн. сваім Апосталам датычна навучаньня людзей і выконваньня сьвятых Таінстваў, такая ўлада перайшла й на цяперашніх правільных Архірэяў. Якую ўладу Хрыстос даў першаму Япіскапу Рыма, Сьв. Сымону-Пятру Апосталу, такая й перайшла на ўсіх рымскіх Архірэяў-Папаў. Калі паводле слоў Хрыста Пётра ёсьць ключаром Царства Хрыстовага, г. зн. Царквы Хрыстовай, то мы уніяты і з намі рыма-каталікі верым, што пастырам, жадаючым быць законным і ўваход у Царкву Хрыстову магчымы ёсьць толькі праз наступнікаў Сы-

мона-Пятра, першага Рымскага Папы. Паглядзеце ў Евангельле, дзе Хрыстос кажа: „входяй дверью въ овчій дворъ, пастырь есть“ (Іоан 10, 2—9), „и ему дверникъ отвереаетъ“, „Азъ есмъ дверь“, а Сымону-Пятру кажа: „Тебѣ даю ключи Царствія небеснаго“ (Мат. 16, 19). Да ўсіх Апосталаў Хрыстос кажа: „Мною кто внидетъ, пожить обрящетъ“ (Іоан 10, 9), а Сымона-Пятру Хрыстос двойчы напамінае: „Паси овцы моя“ (Іоан 21. 15—16), г. ёсьць усё духавенства, „утверждай братію твою“ (Лук. 22, 32), а разам з другімі тваімі братамі Апосталамі, як калісь сказаў „сотворю вы ловца человѣком“ (Мат. 4, 19), гэта значыць усіх верую́чых у Яго. Пішучы гэта, паважаныя чытачы, бачу, як круціце галовамі і кажыце: „Хітрае гэтае мудраваньне“. Ці яно хітрае, пераканайцеся самі. Вазьмеце ў рукі Евангельле і прачытайце ў ім усе тыя месцы, каторыя я абазначыў цыфрамі. Разгарнеце яшчэ Евангельле Марка 16, 7 і прачытайце. Калі-б Пётра ня быў паводле волі Хрыста старшынёй Апосталаў, то ангел сказаў-бы сьвятым Міраносіцам: „Ідзеце, скажэце вучанікам Хрыстовым“. Аднак ангел кажа інакш: „Идита и рцыта ученикам Его и Петрови“ (Мар. 16, 7), як іхняму старшыні. Разгарнеце яшчэ Евангельле Іоан 20, 4—6. Апосталы Пётра і Ян ішлі да гробу Хрыста. Малодшы Апостал Ян хутчэй прыходзе да гробу, але ў гэту сьвятыню не асьмеліваецца ўвайсьці, пакуль ня прыйдзе старшыня Пётра, і толькі з ім мае права сьцьвердзіць праўдзівасьць апавяданьня сьвятых Міраносіцаў аб уваскрашэньні Збаўцы. Калі Хрыстос сьв. Апостала Яна любіў ад усіх іншых Апосталаў, то чаму-ж гэты Апостал не падыходзе першы да гробу, калі прыйшоў да яго раней, чымся Пётра? Ён ня робе гэтага, бо знае волю Хрыста, бо ён паважае свайго Богам дадзенага зьверхніка.

Разгарнеце яшчэ Дзеяньні Апосталаў (10, 9—16) і чытайце. Каму Бог паказвае абрус з жывёлай, абазначаючай, што ўсе народы Бог кліча да сваей царквы? — Пятру.

Ніводнага Апостала цень ня лечыць хворых, толькі цені Апостала Пятра, Першага Рымскага Папы.

Гаварыць, што уніяты і рыма-каталікі памыляюцца ў сваёй веры, — гаварыць гэта могуць толькі пратэстанты, бо пратэстуюць проці навукі Хрыстовай ды называючыя сябе праваслаўнымі, а сапраўды адышоўшыя ад старадаўнай праваслаўнай веры, каторую прызнавалі праваслаўныя сьвятыя Ян Дамастэн, Базыль Вялікі, Ян Златавусны, Мікалай Чудатворац, Кірыла Ерузалімскі, Кірыла Александрыйскі, Кірыла і Мэтод, Уладзімер і другія. Не рабеце сьв. Пятру закіду, што ён адрокся Хрыста ў часе Ягонай мукі. Усім Апосталам Хрыстос сказаў, што яны выракуцца Яго і так яно й было.

Мо спытаеце, за што так Хрыстос вырозьнівае Сымо-

на-Пятра з паміж Апосталаў? Ёсьць толькі адзін адказ: такая Яго сьвятая Божая воля. Ніводная арганізацыя ня можа быць без старшыні, ніводная грамада ня можа існаваць без галавы, ніводнае таварыства без павадыра, ні Хрыстовае войска, Царква ня можа быць без свайго зьверхніка.

Усе вышэй прыведзеныя месцы з Евангельля уніяты і рыма-каталікі так разумеюць, як іх разумелі сьвятыя праваслаўныя перад разьдзелам царкоўным у XI ст. Праваслаўныя таксама даўней думалі і верылі. Доказ гэтага знаходзім у праваслаўных богаслужэбных кнігах.

Вы бачылі гарадзкія вялікія цэрквы з пяцю купаламі: чатыры меншыя купалы і адзін сярэдні найвялікшы купал. Малыя купалы, як кажа праваслаўная традыцыя, сымбалізуюць патрыяршыя пасады: Ерузалімскі, Александрыйскі, Антыёхійскі і Канстантынопальскі, а найвялікшы купал сымболізуе Рымскі патрыяршы пасад. Чаму, спытаеце, найвялікшы купал сымболізуе Рым? Калі праз першых дзесяць стагодзьдзяў шэсьць разоў зьбіраліся Патрыярхі і япіскапы ўсяго хрысьціянства на царкоўныя Саборы, то на ўсіх гэтых зьездах старшынямі Сабораў архірэі прызнавалі дэлегатаў Рымскага Патрыярха, каторых ён замест сябе назначаў.

Узноў спытаеце дзе на гэта доказ? Калі Вам скажу, што доказ на гэта знойдзеце ў гісторыі Царквы Усясьветнай, то яшчэ можаце сказаць, што гісторыю розныя вучоныя розна пішуць. Хто фальшуе гісторыю, — трудна адказаць. Ведайце, паважаныя чытачы, што ёсьць кнігі, каторых ніхто яшчэ не фальшаваў. Для тых, каторыя іх трымаюць, ляпей было-б схвальшаваць, бо яны супроць іх сьведчаць, аднак-жа ня прыйшло нашым праціўнікам у галаву зрабіць гэта. Спытаеце дзе тыя кнігі? Яны знаходзяцца ў кожнай праваслаўнай царкве парахвіяльнай. Называюцца яны Месячныя Мінеі.

Я Вам пісаў, што уніяты і рыма-каталікі аб сьв. Пётры так вераць дагэтуль, як даўней верылі праваслаўныя сьвятыя і аб гэтым пісалі ў малітвах на розныя дні царкоўнага году. Разгарнеце Мінею на месяц студзень кожнага году дня 16 студзеня. Тамака напісана паславянску: „Поклоненіе честныхъ веригъ святаго и всехвалвнаго Апостола Петра“. Усе Апосталы былі ў вастрогах вязаныя ланцугамі, а ўсё-ж такі праваслаўная царква пачытае ланцугі толькі аднаго Пётры Апостала. Гэта яна робе цалком пакаталіцку. У вячэрні таго дня 4 стыхіра Праваслаўная Царква моліцца так: „Днесь намъ основаніе Церкви Петръ, камень веры, предлагаетъ честные свои вериги; радуйся вселенныя радованіе и Небеснаго Царствія ключарю“. Перад сьпевам „Нынѣ отпущаеши“ царква праваслаўная моліцца ў стыхіры пасьля „Слава“ „Паки... Петр камень веры“ і так далей. У тропары таго дня праваслаўная царква мо-

ліцца: „Рима не оставль... апостоловъ первопрестольниче“ і так да канца. Канец заутрані пачынаецца сьпевам гэткімі славамі: „Чествую Петра, основаніе догматъ“. У першай песьні канона гэтае заутрані праваслаўная царква называе Пятра „истинно верховнаго всѣхъ учениковъ“, а ў трэцім тропары яна моліцца: „Основаніемъ вѣры души вѣрныхъ наздалъ еси, издалъ еси церковь тя чтущія всегда“. У трэцяй песьні гэтага канона праваслаўная царква называе Пятра другім сьветам, злучаючым нас з першым сьветам, Хрыстом. У першым кандаку пасьля трэцяй песьні чытаем: „Камень Христос, камень вѣры тя прославляя учениковъ первопрестольника“. А ў седальным пасьля таго-ж кандака так: „Яко верховнаго мудрыхъ апостоловъ и яко ключеря Небеснаго Царствія Петре“... А ў кандаку пасьля шостай песьні так чытаем: „Верховнаго и перваго апостоловъ, славнаго и великаго Господня ученика, кій языкъ человековъ достойно похвалити возможетъ, котораго Божественное Слово (Ісус Хрыстос) ублажи“. А ў 7 песьні у трапары: „Петре, слава Христу былъ еси“. У 8 песьні ў 1 і 3 трапары так: „Дѣлателеви твари, ключи тебѣ божественныя предавшему, неуклоннымъ твоимъ каменемъ вѣры, соблюдая Церкве исполненіе“ і т. д.

Разгарнеце яшчэ Мінею за чэрвень, дня 29 на вячэрні і прачытайце, як праваслаўная царква моліцца да сьв. Пятра ў першым, трэцім і чацьвертым стыхірох, а пасьля прачытайце 3 стыхіру і апошнюю перад сьпевам: „Нынѣ отпущаеши“, а так-жа ў каноне заутрані песьню першую, трэцюю, чацьвертую, сёмую і восьмую. 30 чэрвеня ў кондаку аб Апостале Пётры Царква моліцца так: „Камень Христосъ, каменя вѣры прославляетъ свѣтло“, а ў першай стыхіры царква моліцца так: „Верховное основаніе апостоловъ, ты вся оставивъ... Рима ты былъ еси первый епископъ, превеликаго градовъ слава и похвала и церкве Петре утвержденіе“.

Бачыце самі, старадаўныя праваслаўныя маліліся і верылі таксама, як цяперашнія уніяты і рыма-каталікі. Цяпер я Вас нязлучаных праваслаўных пытаю, чаму гэта Вашае духавенства ня верыць так, як мае ў сваіх царкоўных малітвах? Хто інакш верыць, як мае ў сваіх праваслаўных кнігах, такі духоўнік перастаў быць праваслаўным, ён зрабіўся пратэстантам. Калі уніяты і рыма-каталікі вераць, як старадаўныя праваслаўныя, каторыя адначасна называліся праваслаўна-каталікамі, то праўдзівае праваслаўе знаходзіцца ў нас уніятаў і рыма-каталікоў.

Загляньце яшчэ ў кнігу Мінею на месяц студзень кожнага году. На 2 дзень гэтага месяца знойдзеце службу сьв. Сыльвэстру, Папе Рымскаму. На вячэрні у 4 стыхіры праваслаўная царква моліцца: „Отче святителю Сельвестре, священно преводя свящ. соборъ“, а на заутрані ў 8 песьні

іншага канона ў трэцім трапары праваслаўная царква моліцца гэтак: „Верховникъ явился еси священнаго собора и верховнаго учениковъ (Пётры) украсилъ еси престолъ“. А ў 9 песьні таго-ж канона так: „Яко божественный верховникъ священныхъ отцевъ, священное ученіе утвердивъ“ і т. д. Ці ня праўду пісаў я, што папаў сьвятыя праваслаўныя прызнавалі старшынямі сабораў? Разгарнеце Мінею на месяц люты 18 дзень; у службе сьвятому Лявону, Папе Рымскаму праваслаўная царква моліцца ў двух першых стыхірох на вячэрні: „Что тя именуемъ, богодухновеніе? главу ли православныя церкве Христовы; старейшину верховнаго собора честнаго“. У Мінеі дня 14 красавіка прачытайце, як праваслаўная царква моліцца сьв. Марціну, Папе Рымскаму, а так-жа 25 лістапада сьв. Клемэнсу, таксама Папе Рымскаму. Чытаючы гэтыя службы праваслаўнай царквы пераканаецеся, што не папы рымскія ўзвышалі сябе, а ўзвысіў іх сам Сын Божы ў васобе першага Папы Рымскага сьв. Пятра Апостала, і што праўдзівае праваслаўе знаходзіцца толькі ў уніятаў і рыма-каталікоў, і вераць яны так, як старадаўныя праваслаўныя. Хто ня трымаецца сваіх царкоўных кнігаў і вучыць інакш, — гэта ўжо не праваслаўны, а пратэстант, ці мо' цёмны або благой волі чалавек, што спраціўляецца яўнай праўдзе Божай і навуцы сьвятых праваслаўных, жыўшых і пісаўшых перад разьдзелам. Толькі пратэстант ня можа ў тых службах убачыць праўды Божай і ня хоча памятаць, што Хрыстос абвяшчае ў 17 разьдзеле Евангельля сьв. Яна, каб усе веруючыя ў Бога былі злучаныя асобай яснага верхаўніка, кіраўніка лодкі Хрыстовай. Не праваслаўныя тыя пастыры, што забыліся аб навуцы Хрыста ў першай палавіне 10 разьдзелу Евангельля сьв. Яна і ў 16 разьд. Евангельля сьв. Матэуша і ўваходзяць у авечы двор не атрымаўшы дазволу ад „дверника“, каторому Спасіцель даў ключы царства свайго.

Калі-б жыды трымаліся Старога Запавету, атрыманага Майсеям ад Бога, а не перайшлі да Тальмуду, тагды па наказу сваіх сьвятых кнігаў мусілі-б прыняць хрысьціянства.

Калі-б сучасныя нам архірэі трымаліся навукі праваслаўных сьвятых, то ўжо пакінулі-б пыху і злучыліся-б з тым, каторага прызнаюць найкультурнейшыя народы і найбольш вучоныя людзі, наступніка сьв. Пятра Апостала, Папу Рымскага.

Мы павінны ведаць, што ў Хрыстовай царкве існуе 12 розных абрадаў літургічных, а ўва ўсіх іх адна Хрыстовая вера. Ніхто ня мае права гаварыць, што ягоны літургічны абрад лепшы ад другіх, бо ўсе тыя абрады ў Бога роўныя, калі ўва ўсіх вера аднолькавая. Аб розьніцах у вабрадах пагутарым другім разам.

*а. М. Высакінскі.*

# „Непопулярнасьць Сьвятога Язафата“.

Нeяк дзіўна, скажу больш, незразумела задавацца пытаньнем, ці можа мучанік за веру, апостал вялікай ідэі еднасьці хрысьціянскай, быць непопулярным у краю, дзе жыцьцё пражыў, дзе кроў сваю ахвярна праліў, каторага імя так цесна злучана з гісторыяй доўга-трывалай Уніі царкоўнай на землях нашых? Няўжо-ж патомныя пакаленьні не зразумелі і не аценілі самаахвярнасьці Язафата Кунцэвіча, таго вялікага дзеяча рэлігійнага, аб каторым Рым сказаў сьвету сваё апошняе слова, называючы яго сьвятым Божым? Калі слова аб ім разыйшлося па ўсім сьвеце каталіцкім, ці-ж бы мела прыгаснуць тут у сябе дома, паміж тымі, што ступаюць, ходзяць па сьлядох ягоных? — А ўсё-ж-такі факты гавораць сваё і яны, ня хто іншы, прымушаюць нас задацца тутка гэным пытаньнем. Прадставім-жа тады, як яно фактычна ёсьць і заглянем крыху глыбей у прычыны таго сумнага між намі зьявішча, тае, як кажам, непопулярнасьці сь. Язафата.

Ня будзем — рэч зразумелая — шукаць популярнасьці сьв. Язафата ў грамадзянстве нашым праваслаўным. Царская палітыка загасіла тут памяць аб ім дазваньня. Сьв. Язафат — гэта нават не сьв. Ігнат Ляёля, з каторым як-ніяк рахуюцца, адкрыта і голасна проціў яго выступаючы і ў пісьме і вусна. Расправіўшыся з Уніяй урад царскі ня вельмі ўжо баяўся памяці Язафата, ня было вялікай патрэбы аб ім і ўспамінаць. Ня трэба было ўпярэджываць прад ім праваслаўных, ня трэба было і лішня загіджываць яго перад народам. Сіла і стойкасьць ураду была зарукай, што Унія ня ўскрэсьне. Ды ўрэшце на што было дражніць, на што выклікаць ужо застыгаючыя настроі уніяцкія ў народзе? Словам, загасла Унія, загінула і памяць аб сьв. Язафаце. Перастае быць актуальнай справа Уніі, зыходзіць з паверхні жыцьця і фірма яе — Язафат.

Але пяройдзем да нашага грамадзянства каталіцкага. Аб літоўцах тут гаварыць ня будзем. Яны, як не славяне, безпасярэдна менш заінтэрасаваны гісторыяй сьв. Язафата. Ня будзем так-жа ўспамінаць аб палякох варшаўскіх, пазнанскіх; і для іх сьв. Язафат ёсьць нечым далёкім: сьвяты, як сьвяты ды і толькі. Зьвернем увагу на каталікоў тутэйшых нашай Заходняй Беларусі. Хоць у большасьці яны беларусы, але — сказаць трэба горкую праўду — лічацца яшчэ ўсьця-ж „польскае веры“.

Давялося мне ў гэтай справе гаварыць з людзьмі рознымі. Зумысна пытаўся я і ў простых і ў вучоных (сьвецкіх)

і далей і ту-ж пад Вільняй жывучых, некаторыя былі і з віленскіх парафіян — адказывалі, што нават і ня чулі аб такім сьвятым. Іншыя зноў чуць чулі, але толькі з назовы, а кім ён быў, аб тым паняцьця ня мелі. Ці-ж гэта ня факт цёмнай непапулярнасьці сьв. Язафата?

Прыпамінаю сабе юбілей сьв. Мучаніка з 1923 году (300 гадоў ад яго сьмерці). Сьв. п. епіскап Матулевіч даў загад адсьвяткаваць урачыста памяць сьвятога па ўсіх касьцёлах. І сьвяткавалі-ж, але як, аб тым лепш не ўспамінаць, бо проста было-б стыдна і гаварыць. А ўжо-ж здавалася, што ў паваенных абставінах, калі пасьля вяковага прасьледу і зьдзеку заясьнела зорка жаданай свабоды рэлігійнай, так-жа-ж добра было, так лёгка, так адпаведна ўшанаваць памяць Вялікага Змагара за прыгожыя ідэалы веры Хрыстовай! А ўсё-ж-такі... І гэта узноў пацьвярджае той самы факт непапулярнасьці сьв. Язафата ў краю нашым.

Сьвяты ў народзе, у краю — гэта вялікі дар Божы. Дае яго Бог дзеля большага ажыўленьня веры хрысьціянскай, дзеля асаблівых патрэбаў таго краю і народу. А ўжо-ж ці-ж маем іх у сябе так многа? Казімер, Язафат... Тым больш трэба было-б шанаваць іх памяць, гэта-ж наш гонар, нашая слава! А тымчасам такі глыбокі заняпад, такая непапулярнасьць!

Дзе-ж прычыны? Астыгла, відаць, сэрца хрысьціянскае ў народзе, калі не адзываецца яно на голас Божы, калі адварачываецца ад таго, хто любоў Хрыстову ажывіў так ясна у душы сваёй і як мучанік прыпячатаў ахвярай крыві ўласнай.

Астыгла, што-ж яго астудзіла? Гэта не інакш, як толькі дух самалюбства людзкога, прагавітасьць земскага, дачаснага. Відаць справа Уніі і сьв. Язафата стаіць у супярэчнасьці з духам гэтага сьвету і затым так халодныя, а часта і варожыя адносіны да яе. Дзе скарб ваш, там і сэрцэ вашае будзе...

Адхылім-жа крыху заслону на гісторыю Уніі. Гісторыя сьведчыць, што Унія на нашых землях адразу была запрэжана ў палітыку. Мела яна даць з Беларусаў добрых грамадзян польскай дзяржаве. Толькі гэта было-б яшчэ поўбяды, калі-б яна не пайшла (чаго мо' спачатку і не прадбачыў Жыгімонт III), шмат куды далей.

У якой меры ўсё гэта спрыяць магло популярнасьці сьв. Язафата, кожнаму зразумець лёгка. Сьв. Язафат сваю долю злучаў з доляй Уніі. Популярызаваць сьв. Язафата значыла-б ажыўляць пагарджаную Унію.

Затоя-ж мо' цешыўся сьв. Язафат шырокай популярнасьцю сярод сваіх, сярод Уніятаў?

Ня відаць глыбейшых сьлядоў тае чэсьці і здаецца яе і быць не магло, прынамсі так, каб назваць можна было популярнасьцю. Гэта зразумела. Што-бо сьв. Язафат уніяту прыпамінаў такога? Яго пагарджаную мужыцкую веру, каторую аднак заховываў, бо мусіў, бо іншага лепшага выхаду ня бачыў, гэтак як і сваю прастачую беларускую народнасьць цярпліва зносіў, не выказываючы свайго энтузыязму ані да прошласьці сваей, каторую мала знаў, ані да мовы роднай і звычаяў, каторых стыдаўся. Са сваей уніяй ён чуўся, як на панскім падворку загнаны сярод сьмеху і пагарды.

Пасьля падзелу Польшчы беларускія уніяты апынуліся пад Расеяй. Цар прыступіў адразу плянова да замены Уніі на праваслаўе. Аб што яму ішло? Аб русыфікацыю краю. Наступіла змаганьне. Уніяты ў меру сіл бараніліся і перад праваслаўем і перад русыфікацыяй. Ратавалі сваю пагарджаную веру, ратавалі і польскасьць сабе чужую, бо сваёй беларускасьці былі мала сьведамы. З другога боку ішло праваслаўе пад сільнай апекай ураду і нясло масам нясьведамым кліч ратунку перад аканчальнай загубай у хвалях польскага нацыяналізму. Вось дзе сапраўды раздарожжа і трагізм душы народу беларускага!

Ці ў гэтакіх абставінах можна думаць аб популярнасьці сьв. Язафата? Па часьці так, бо палякі шкадуючы Уніі, як сваёй пляцоўкі, маглі для падтрыманьня яе паклікацца на памяць сьв. Язафата і популярызаваць яго сярод уніятаў, але ў такой мяцеліцы, у якоў яны (уніяты) тады знайшліся, гэта глыбей у народ не пайшло.

Прышлі ўрэшце апошнія часы свабоды. Над краем беларускім заясьнела зорка адраджэньня і сьведамасьці народнай. Пачуўся кліч незалежнасьці Беларусі, кліч аб'яднаньня народнага і аб'яднаньня рэлігійнага. Ускрэсла, ажыла ізноў ідэя Уніі царкоўнай. Павадыр руху беларускага Іван Луцкевіч адбывае конфэрэнцыю з Мітрапалітам Шэптыцкім, прывозіць нам з заграніцы патайком мэдалікі сьв. Язафата. Беларускія ксяндзы аб ёй загаварылі, як аб сваёй справе роднай. Зьяўляецца духавенства уніяцкае, завязываецца Альбэртынская місія ўсходніх ОО. Езуітаў. Ізноў Унія на землях беларускіх!

Што-ж на тое польскае каталіцкае грамадзянства? Яно настрояў сваіх не зьмяніла ані на ёту. Унія мае служыць нацыянальным інтарэсам польскім! А калі не, тады і знаць яе ня хочам! „Наш брат ня любіць Уніі“ — сказаў

мне адзін выдатны польскі ксёндз — „калі наварачываць толькі на лацінства“.

Разумеецца, што ў гэтакіх настроях гаварыць аб папулярнасьці сьв. Язафата проста немагчыма.

Хто-ж падымецца ўсё-ж-такі ажывіць у народзе памяць Апостала Уніі? Гэта зробяць шчыра адданыя прыхільнікі. У першай чарзе самыя уніяты. Ці могуць яны (уніяты прыхільнікі) быць і з палякоў? Так, больш здаровыя адзінкі змогшыя паканаць у сабе хваробу нацыянальную гэта пэўна-ж рабіць будуць.

Няхай-жа іхная самаахвярнасьць хрысьціянская будзе аплатай экспіяцыйнай за грахі свайго грамадзянства цяперашняга і даўнейшага.

*Я. Р.*

# Сьцеражыцеся фальшывых пракароў, а дзяржыцеся праўдзівай Хрыстовай веры!

Кожны чалавек павінен жыць так, каб выслужыць для душы сваей неба. Каб выслужыць неба, трэба добра знаць і добра спаўняць праўдзівую Хрыстовую веру. А ёсьць многа вераў фальшывых. Як за фальшывыя грошы ў кагось разумнага нічога ня купіш, так і фальшывая вера не давядзе да неба. Праўдзівая вера толькі адна. „Адзін Гасподзь, адна вера, адзін хрост“ (Ефес. 4, 5). Адзін Бог на небе, адзін Ягоны Сын стаўся чалавекам і як Бог чалавек Ісус Хрыстос залажыў на зямлі адну толькі сваю Царкву:, „Ты Пётра (гэта знача камень), а на гэтым камені я збудую Царкву маю, а брамы пекла не перамогуць яе. І дам табе ключы Царства Нябеснага і што зьвяжаш на зямлі будзе зьвязана і на небе, а што разьвяжаш на зямлі, тое будзе разьвязана і ў небе“ (Мат. 16, 18, 19). Гэтак сказаў Хрыстос Бог да свайго апостала св. Пётры і ўжо гэтымі славамі даў яму найбольшую ўладу у сваей Царкве — ключы Царства Нябеснага, забараняць і пазваляць тое, што будзе ўважаць за патрэбнае і карыснае для збаўленьня душаў людзкіх. Перад адходам сваім да неба гэту ўладу Хрыстос пацьвярдзіў, калі над возерам Галілейскім спытаўшы Пятра тры разы: „Ці любіш мяне больш, чым іншыя апо-

сталы“, на яго адказ „люблю“ прыказаў яму „Пасі баранкі мае!“ „Пасі авечкі мае“ (Іоан. 21, 15—17). „Пасі баранкі“, гэта знача ўпраўляй, кіруй, вучы ўсіх людзей, што Хрыста прызналі і прынялі яго веру,—пасі авечкі—знача кіруй і вучы іх духоўнікаў (епіскапаў і сьвяшчэньнікаў), якія для народу зьяўляюцца тым, чым авечкі для баранкаў. Баранкі ўсюды бягуць за авечкамі, людзі таксама павінны ісьці за сваімі айцамі духоўнымі.

Але апостал Пётра памёр, а ўлада яго, тыя ключы Царства Нябеснага, не памёрлі, а перайшлі да яго наступнікаў, рымскіх патрыархаў, бо сьв. Пётра быў першым рымскім патрыархам і там-жа памёр, вось чаму ягоная ўлада перайшла да яго наступніка св. Ліна, з таго на другога, з таго на трэцяга і г. д. аж па сягоньняшні дзень, калі ўжо сядзіць у Рыме 260-ты наступнік сьв. Пятра Пій XI, каторы мае ўсе правы тыя, якія даў Хрыстос Пятру апосталу: забараняць і пазваляць — кіраваць хрысьціянскім народам і яго духоўнымі пастырамі. Хто гэтага ня прызнае, той спраціўляецца волі Хрыста, а гэтым самым адкідаецца ад праўдзівай Хрыстовай Царквы, ды ўзыходзе на блудную дарогу, якая завядзе яго не да неба, а на вечную пагібель. Гордасьць найпершага ангела перамяніла ў чорта і зьвяла з неба ў пекла, тая-ж гордасьць бывае заўсёды прычынай усякага адступства ад праўдзівай Хрыстовай Царквы, тварэньня новых фальшывых вераў і вечнай мукі ў пекле вельмі многіх людзей, што ці самі проці праўдзівай веры бунтуюцца, ці за гэтакімі збунтаванымі ідуць.

Усім сваім апосталам сказаў Хрыстос: „Каму адпусьціце грахі, таму будуць адпушчаны, а каму задзержыце, таму будуць задзержаны“ (Іоан 20, 23). Гэтымі славамі даў Хрыстос апосталам і іх наступнікам (духоўнікам) моц адпушчаць грахі на споведзі. Пасылаючы вучняў сваіх на навучаньне, Ісус сказаў ім: „Ідзіце і навучайце“... „Хто вас слухае, мяне слухае, а хто вамі пагарджае, той мною пагарджае“ (Лука 10, 16). Вось калі хто пагарджае наступнікамі сьвятых апосталаў, ці толькі патрыархам рымскім, як тыя, што яго ня слухаюць, ці іншых епіскапаў і сьвяшчэньнікаў, жывучых у еднасьці з тым-жа рымскім патрыархам, той гэтым самым пагарджае і самым Ісусам Хрыстом і Ягоным Айцом нябесным і ўсей Найсьвяцейшай Тройцай, бо бунтуецца проці волі Хрыстовай, волі Божай, каб усе слухалі тых, каго Ён паслаў.

Гэтакімі бунтаўшчыкамі і фальшывымі прарокамі зьяўляюцца ўсе тыя людзі, ці яны ў звычайнай сьвецкай адзежы, ці і ў духоўнай, каторыя вучаць ня так, як навучае адзіная, сьвятая, паўсюдная і апостальская праўдзівая Хрыстовая Царква, каторыя ці то адбіваюць людзей усяго толькі ад паслушнасьці рымскаму патрыарху і верных яму пасты-

раў, ці бунтуюць зусім проці ўсякага духавенства, проці Царквы, крыжа, абразоў і г. п. Усе яны ашуканцы, усе служаць ня Хрысту, а пеклу, усіх іх трэба сьцерагчыся горш як агню, бо агонь толькі цела прыпячэ, а яны завядуць нашу душу да пекла, дзе будзе пячыся без канца. Кажуць гэтакія фальшывыя вучыцялі, што яны еванэлісты, ідуць па слову Божаму, па еванэліі—што прызнаюць Хрыста і яму служаць — яны часта моляцца, пробуюць рабіць знакі падобныя да цудаў, а хоць цуды ніякія не ўдаюцца, то ўсё-ж-тыкі у другой трэцяй вёсцы расказываюць, што быццам яны і цуды робяць... Вось трэба ведаць, што аб гэтакіх ашуканцах сказаў Хрыстос, што яны на судзе апошнім скажуць: „Госпадзі, або-ж мы у Тваё Імя не навучалі, і ў Імя Тваё чарцей ня выганялі і ў Тваё Імя цудаў не рабілі? А тады скажу ім: я вас ніколі і не знаў; адступіціся ад Мяне, што робіце няпраўду“ (Мат. 7. 22—23). Сьцеражымося-ж іх, каб і нам не пачуць слоў Хрыста Бога: „Адступіціся ад Мяне“.

Яны вучаць, каб не маліцца да Божай Маці Марыі, бо кажуць гэта адымае чэсьці Хрысту Богу — ашуківаюць; бо ці то адымала-бы чэсьці якому цару, калі-б хто прасіў яго аб чым праз ягоную матку? не, але яшчэ гэту чэсьць павялічыла-бы. Так і мы, як молімся да Прасьвятой Дзевы Марыі, то гэтым самым яшчэ больш узьвялічаем Яе Сына Цара-Бога. Таксама ня ўнімае чэсьці пану, калі хто зьвяртацца з просьбай да ягоных верных і мілых яму слугаў, каб яны заступіліся за яго прад панам — роўна-ж ня ўнімае славы Богу, калі мы молімся да святых, ягоных верных і мілых слугаў — але гэну славу толькі павялічае.

Кажуць яны, што аддаваньне чэсьці і прызываньне помачы сьвятых ці анёлаў праціўна Сьв. Пісаньню, а тым часам у Сьв. Пісаньні бачым што іншае: Ісус Навін паў тварам на зямлю і аддаў паклон Арханёлу Міхалу і той не сказаў, што гэтак рабіць ня можна (Ісуса Навіна 5, 14). Макавей бачыў быўшага Першасьвяшчэньніка Онію і прарока Ярэмію (пасьля іх сьмерці) молячыхся за жыдоўскі народ... (Кн. 2 Макав. 15, 12—15). Калі Онія і Ярэмія маглі маліцца за жывых, то і іншыя сьвятыя могуць і моляцца за тых, што іх аб гэтым просяць і ўпрашаюць ім ад Бога ўсякія ласкі. Тым больш трэба нам прызываць заступніцтва Найсьвяцейшай Мацеры Хрыстовай Марыі, каторая ёсьць Хрысту Богу наймілейшая і яе малітвы ніколі адкінуты быць ня могуць.

Яшчэ кажуць фальшывыя вучыцялі, што калі хтось моліцца перад абразамі, або прад крыжам, то ўсё роўна якбы аддаваў чэсьць балваном, а калі хто робіць на сабе знак крыжа, то расьпінае Хрыста. Усё гэта ашуканства, бо калі мы молімся прад абразамі, то не абразом гэтым ад-

даём паклоны, палім сьвечкі, або кадзіла, але самому таму, хто на абразе вырысаваны, прычым, калі абраз якогась сьвятога, ці сьвятой, то і ў гэтым выпадку чэсьць адносіцца да Бога, што даў сваім слугам дар сьвятасьці, „Хваліця Бога у сьвятых яго“ (Пс. 150). А калі робім на сабе знак крыжа, то мы гэтым выражаем веру, што Хрыстос збавіў нас праз сьмерць на крыжы і аддаём чэсьць Яго сьмерці, а не расьпінаем нанова. Таксама калі ставім крыжы пры дарогах, ці ў хатах, ці хоць дзе, то на тое гэта робім, каб крыжы прыпаміналі нам, што Хрыстос Бог даўся прыбіць да крыжа і памёр на ім, каб нас абараніць ад вечнай сьмерці, г. зн. ад пекла. Падобная-ж рэч маецца із іншымі рэчамі, ужыванымі ў Царкве Хрыстовай, проці каторых паўстаюць розныя фальшывыя вучыцялі.

Хто шчыра і сумленна разьбярэцца ў тым усім, чаму вучыць адзіная, сьвятая, Хрыстовая паўсюдная (каталіцкая) цэрква, той мусіць прызнаць, што ў ей аднэй толькі знаходзіцца ўся праўда, а няма там ніякага фальшу і ашуканства. Толькі гэту веру пацьвярдзіў Бог і па сягоньняшні дзень пацьвярджае рознымі цудамі, прызнанымі за такія ня толькі каталікамі, але і рознымі няверными, каторыя толькі, быўшы сьведкамі такіх цудаў, часта наварочываліся ў каталіцтва і прызнавалі, што толькі гэта вера запраўды сьвятая, Хрыстовая, што толькі яна вядзе да неба.

Вось гэтай веры вучымося і дзяржымося ўсе, а сьцеражымося ўсякіх фальшывых пракокаў.

*а. Б. Пачопка.*

---

## *Багаслаўлёны.*

*Багаслаўлёны, хто ад сну прачнуўся,*
*Хто Сонца Праўды ўбачыў прад сабой,*
*Хто з блуднай сьцежкі ў жыцьці зьвярнуўся,*
*Ня жыве больш целам, а жыве душой!*
*Багаслаўлёны, каго сьвет Хрыстовы*
*Пуцяводнай зоркай праз жыцьцё вядзе,*
*Хто без нараканьня крыж нясьці гатовы,*
*Сьледам за Ісусам хто ўпярод ідзе.*
*Багаслаўлёны, хто надзею ў Богу*
*Палажыў з верай з маладых гадоў, —*
*Той забыў нядолю, гора і трывогу,*
*Бо дарогай простай праз жыцьцё пайшоў.*

*У. Б—ч.*

# Некалькі слоў аб малітве і хрысьціянскай душы.

Малітва гэта першы і найбольшы абавязак хрысьціяніна. Ня можа быць хрысьціянскага жыцьця без малітвы, бо гэта дарога, якая вядзе да Крыніцы гэтага жыцьця — Самога Ісуса Хрыста. Як цела ня можа быць сільным і адпорчывым у хваробе бяз добрае стравы — так душа ня можа быць сільнай і адпорчывай у грэшных спакусах бяз шчырае малітвы.

Кожны злы ўчынак — кожны грэх зьняважае Госпада Бога, аддаляе нас ад Яго, губіць хрысьціянскую душу. Праз малітву мы можам унікнуць гэтага злога ўчынку-граху, або атрымаць Божае прабачэньне, калі пасьля шчырае малітвы зробім такую-ж шчырую споведзь і ў чыстую душу прымем Найсьвяцейшае Таінства — Цела Хрыстова.

Чалавек па сваей натуры вельмі няўстойчывы: то ён ахвотна згаджаецца служыць Госпаду Богу, выпаўняць Яго запавядзі, то зноў усё гэта адкідае, робячы грэшныя ўчынкі — абражаючы свайго Адзінага Тварца. Адна толькі малітва можа ўберагчы чалавека ад цяжкіх грахоў: яна збліжае душу з яе Тварцом, лучыць яе з Ім, праз яе душа прымае ў сябе Самога Бога, каторы недапускае нас да выпаўненьня грэху.

Ні словы духоўніка, ні прыклад яго сьвятога жыцьця ня ўтрымаюць чалавека ў вернасьці і любові да Бога, калі ня будзе Божага ўчасьця ў яго душы. Вось толькі аднэй пакорнай, даверчывай і кахаючай малітвай чалавек можа атрымаць гэтае Божае ўчасьце, якое дае сілы змагацца са злом і трымае ў чыстаце чалавечую душу.

Душа наша гэта мы самі... Мы толькі прывыклі ўважаць сябе за жывую істоту бяручы пад увагу нашу постаць-цела. Цела гэта, ня больш ня менш, жывы арганізм, як і кожны другі. Праўда па волі Божай у ім родзіцца і прыгатаўляецца да вечнага шчасьця — Царства Божага наша душа, але з таго мамэнту, як гэты арганізм перастае быць здольным да далейшай чыннасьці жыцьця і настае сьмерць — мы, або наша душа, адыходзім у вечнасьць.

Хрыстовая Царква вучыць, што ёсьць тры месцы куды адыходзіць чалавечая душа разстаўшыся з целам. 1. Валадарства Божае, або Рай. 2. Чысьцец. 3. Пекла.

Кожны, хто любіў Бога, хадзіў у царкву, маліўся Богу, спавядаўся з грахоў, прымаў Сьвятое Прычасьце, рабіў міласэрныя ўчынкі, трымаў сябе ў адпаведнай чыстаце ёсьць у ласцы Божай і пасьля сьмерці свайго цела — адыдзе ў Валадарства Божае і будзе магчы аглядаць увесь Маестат Госпада Бога, Нашага Ўсясьветнага Валадара.

Чалавек, які ня так цяжка грашыў, але ўсё-ж-такі грашыў, ня трымаў сябе ў адпаведнай Царству Божаму чыстаце, але верыў у Бога, калі-нікалі маліўся Яму, хадзіў у царкву, бывала што спавядаўся і прычашчаўся, аднак памер бяз споведзі, прычасьця і шчырага каяньня за грахі, дык ён павінен будзе адысьці, на адпаведны сваім грахом час, у чысьцец, каб там адпакутаваць за свае грахі, ачысьціцца і стаць годным месца вечнага шчасьця — Раю.

Грэшнік, які ня каяўся ў сваіх цяжкіх праступках, ня верыў у Бога, ніколі нават і не падумаў аб тым, каб атрымаць Божае прабачэньне за свае цяжкія грахі, пойдзе ў пекла на вечныя мукі. Такіх людзей мы павінны найбольш шкадаваць і маліцца за іх, хоць яны можа нам зрабілі і не адно зло.

На заканчэньне вернемся яшчэ да душы.

Душа хрысьціяніна гэта як-бы маленькая цэркаўка, у якой з дня хросту прысутны Сам Жывы Бог у ўсей Сваей моцы і міласьці, калі яна знаходзіцца ў адпаведнай Яго Маестату чыстаце. Дык-жа стараймася праз чыстую і гарачую малітву годна ўтрымаць гэтую „цэркаўку“ ў нас самых, каб яна была дастойным Бога жыльлём.

*Я Корчык*

# Наш адказ.

У № № 13 і 14 варшаўскага „Слова“ бачым артыкул аўтара П. „Историческія причины возникновенія и развітія католическаго ученія о главенствѣ папы Римскаго“. На ўсё, што сказана ў гэтых двух нумарох, даю кароткі адказ. Ня буду вельмі разьвіваць шырока гістарычныя доказы на пацьверджаньне навукі каталіцкае царквы аб галавенстве папы Рымскага, маей задачай ёсьць толькі даць адказ на пагляды нязлучанага праваслаўя.

„Каталіцкая навука — гаворыцца ў № 13 „Слова“ — аб галавенстве рымскага папы ёсьць тым сяродкавым догматам, які ясна і выразна аддаляе Каталіцтва ад Праваслаўя“.

На гэта можна згадзіцца, толькі адно мушу зазначыць, што няпрызнаваньне Папы Рымскага Галавой Царквы аддаляе ня толькі ад Каталіцтва, але і ад праўдзівага Праваслаўя. Праўдзівае праваслаўе, Праваслаўе сьв. Базыля Вялікага, сьв. Іоана Златавуснага, сьв. Мікалая Міркнікійскага Цудатворцы ня можым прадставіць бяз лучнасьці з Апостальскім Рымскім Пасадам.

Гэта праўда, што галоўнай розьніцай паміж Каталіцтвам і сяньняшнім нязлучаным Праваслаўем ёсьць няпрызнаваньне за Кіраўніка Царквы на зямлі Папы Рымскага.

Чытаем далей: „Зьяўляючыся фундамэнтам усёй заход-

няй багаслоўскай сыстэмы, навука аб галавенстве япіскапаў Рыму, засланяючы сабой нявідомую Галаву Царквы, Госпада Ісуса Хрыста, стаіць у глыбокай супярэчнасьці з сутнасьцю навукі Евангельля аб жыцьці і рэлігійным пазнаньні".

У гэтым сказе многа няпраўды: 1) фундамэнтам заходняе багаслоўскае сыстэмы зьяўляецца не навука аб Галавенстве Папы Рымскага, а Сьвятое Евангельле.

2) Галавенства Папы Рымскага не закрывае сабою Галавы нявідомай Царквы Ісуса Хрыста, Папа Рымскі ня ёсьць замест Ісуса Хрыста, як думаюць і вучаць нязлучаныя праваслаўныя. Гэта несправядліва прыпісываць каталіцкай царкве тое, чаго яна ніколі ня вучыла і ня вучыць. Аб гэтым ужо я пісаў у № 1 „Да Злучэньня". Сапраўды, як можна інакш назваць навуку праваслаўных нязлучаных аб галавенстве Папы Рымскага,як толькі дэмагогіяй або дурэньнем галавы.

Нядаўна, ходзячы па вёсцы сустрэў у адной хаце чалавека, каторы мяне запытаў, якая наша навука аб упраўленьні Царквою Хрыстоваю і якая паміж праваслаўнымі злучанымі (уніятамі) і праваслаўнымі нязлучанымі розьніца. Мой адказ быў ясны: як паводле уніятаў так і паводле навукі братоў праваслаўных нязлучаных Галавой Царквы ёсьць сам Ісус Хрыстос, толькі тая розьніца, што Упраўляючым Царквою тукака на зямлі ў каталікоў і уніятаў ёсьць Усясьветны Архірэй Папа Рымскі Пій XI, а ў нязлучаных праваслаўных Польскі Мітрапаліт у Варшаве Дііяніс. Розьніца ёсьць у ўпраўляючым царквой, а ня ў чым другім. Чалавек, да каторага я гаварыў, лёгка гэта зразумеў, спадзяюся, што і для чытачоў ня трудна будзе гэта ўцяміць.

Навука вышэй прыведзеная паводле аўтара артыкулу „стаіць у глыбокай супярэчнасьці з сутнасьцю навукі Евангельля аб жыцьці і рэлігійным пазнаньні".

Ня толькі глыбокай, але ніякай супярэчнасьці няма паміж вучэньнем аб галавенстве Папы Рымскага, як наступніка сьв. Пятра Апостала, і навукай сьв. Евангельля, наадварот, якраз гэта навука на Евангельлі апіраецца. Ня буду прыводзіць усіх доказаў на пацьверджаньне галавенства сьв. Пятра Апостала, адсылаю да артыкулу а. Высокінскага ў гэтым-жа нумары нашай часопісі, пад загалоўкам: „Дзе праўда". Сьв. Пётр, як ведама, быў япіскапам першым у Рыме, там мучаніцкаю сьмерцю памёр і там па сяньняшні дзень знаходзяцца ягоныя мошчы.

Гэтаму не пярэчыць варшаўскае „Слово" і нават пацьвярджае ў далейшым працягу свайго артыкулу (№ 14). Ад самага Ісуса Хрыста атрымала людзкасьць арганізацыю царкоўную, і ніхто ня мае права яго Сьвятую Волю зьмяняць.

Няведама чаму і з якой мэтай аўтар артыкулу пацьвярджае свой доказ проці галавенства Папы Рымскага славамі сьв. Паўлы, з пасланьня да Эфэсцаў (3, 18—19); пры-

вяду гэтыя вершы цалком: „18. Каб вы, укараніўшыся і ўмацаваўшыся у любові, здалелі зразумець з усімі сьвятымі, што шырыня і даўжыня, і глыбіня й высокасьць,

19. ды пазнаць любоў Хрыстову, што вышэй за разуменьне, каб вам напоўніцца ўсею поўняй Божаю“.

Што тутака можна вычытаць проці галавенства Папы Рымскага, — ня ведаю. Спадзяюся, што і чытачы ў гэтых словах нічога ня могуць дагледзіць проці папы Рымскага.

Пойдзем далей за думкай аўтара артыкулу, можа ён нам вытлумачыць.

„Паводле каталіцкай навукі, — пазнаньне праўды даецца толькі самастойна папе, бяз сувязі з царквою“. Ну і вытлумачыў! Чытаю і ня верыцца, каб такая думка магла зьявіцца ў галаве нашых няпрыхільнікаў.

Каталіцкая царква ніколі ня думала вучыць, што праўду можа пазнаць толькі папа рымскі, наадварот, заахвочывае ня толькі каталікоў, але праваслаўных да пазнаньня праўды.

Вельмі слабая аргумэнтацыя. З гэтай фальшывай, і як відзім, слабой аргумэнтацыі, выводзіць аўтар таксама фальшывы пагляд каталіцтва на Царкву Хрыстовую. „З гэтага бачым — так піша,—як вельмі зямны абсалютызм Рыма замяніў сабою праўдзівае вучэньне аб царкве, як аб Целе Хрыстовым і сфальшаваў паняцьце аб пазнаньні праўды“. Гэта ня праўда, заўсёды каталіцкая таксама уніяцкая царква вучыла і вучыць, што Царква Хрыстова, гэта Ягонае Цела. Як жывое цела мы ня можам прадставіць сабе бяз галавы, таксама і Царкву Хрыстову ня можам зразумець бяз Галавы, якою ёсьць сам Ісус Хрыстос, а Папа Рымскі заступнік яго на зямлі, не інакш як толькі ў лучнасьці з Хрыстом выконывае Ягоную волю адносна да членаў Цела Хрыстовага.

На далейшыя вывады дам адказ у наступным нумары

*Злучэнец.*

---

## *Да Цябе Моцны Божа!*

*Да Цябе, Моцны Божа, зьвяртаюся я*
*З малітвай пакорнай і ціхай.*
*Тварэц Усемагутны! Хай просьба мая*
*Ня будзе адкінутай—прыкрай...*
*Я прасіць у Цябе, Добры Ойча, хачу*
*Как Сваей Усемагутнай рукою*
*Ты мне можнасьць паслаў, тады я палячу*
*У родны край няўпыннай стралою!*

*ЯНКА НЕВУК.*

# Хроніка.

## З рэлігійнага жыцьця.

**Уніяністычны Кангрэс у Вэлеградзе.** Сёлета 13—17 чэрвеня мае адбыцца ў Вэлеградзе (Чэхаславакія) уніяністычны міжнародны кангрэс для спраў аб'еднаньня хрысьціян у адну Царкву Хрыстовую. Папа Рымскі па гэтай прычыне прыслаў архіепіскапу Прэчану з Оломунца сваё багаслаўленьне і пажаданьне шчасьлівага выніку працы Кангрэсу.

**Выбары кіраўніка Пінскае р-к Эпархіі.** 31 сакавіка с. г. адбылося пленарнае сабраньне Катэдральнае Капітулы, на каторым вікарым капітулярным або кіраўнікам, пакуль не назначаць новага епіскапа, выбраны сьвяшч. Др. Вітальд Івіцкі, пралат Капітулы Катэдральнае ў Пінску.

**Цуд пры мошчах Сьв. Пранцішка Ксавэрага.** „Osservatore Romano“ падае аб новым цудзе, які стаўся пры мошчах Сьв. Пранцішка Ксавэрага ў Гоа. Цяпер было раптоўнае выздараўленьне хворай, каторай усё цела было спаралізавана ў працягу 17 гадоў.

**Лібэралізм у праваслаўі** У Папскім Усходнім Інстытуце ў Рыме а. Тышкевіч меў лекцыю аб лібэралізме ў праваслаўі. У гэтай лекцыі прэлегэнт выказаў фальшывасьць пагляду, што адшчапенства ўсходняе не падлягала на працягу вякоў пераменам. Праваслаўе можна сказаць за час свайго існаваньня памалу але паступова адходзіла ад каталіцтва. На доказ гэтага а. Тышкевіч прывёў 2 факты: 1) загубленьне паняцьця аб надпрыроднай і герархічнай царкве і пастаўленьне на гэта месца цэзарапапізму, 2) сапсуцьцё навукі аб неразрыўнасьці сувязі шлюбнай, якая яшчэ ў XV стагодзьдзі была амаль што ня рушана. Цэзарапапізм дашоў да найвышэйшага пункту пасьля рэформаў Пётры В., а неразрыўнасьці шлюбу быў паложан канец праз дазвол мітрапаліта Дзяніса Вялікаму Князю Базылю на разарваньне шлюбу.

**Эўхарыстычны Кангрэс.** Сёлета ўсясьветны Эўхарыстычны Кангрэс адбудзецца ў сталіцы Ірландыі Дубліне 22—26 чэрвеня. Возьмуць у ім удзел усе народы, можа хто і з Беларусаў там будзе.

**Новы гадавік ватыканскі.** Папе Рымскаму прадставілі новы гадавік папскі (Annuario Pontificio) на 1932 год. З паданых у ім вестак выходзіць, што цяпер ёсьць 55 кардыналаў, у тым 26 італьянцаў і 29 чужынцаў, 1609 япіскапаў з юрысдыкцыяю (епархіяльных), з якіх 673 прыпадае на Эўропу, 445 на Амэрыку, 277 на Азыю і 74 на Аўстра-

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.

лію. Апостальскі Пасад мае 36 прадстаўнікоў дыпляматычных у 36 дзяржавах, апрача 22 Дэлегатур Апостальскіх, ня маючых характару прадстаўніцтва дыпляматычнага. Пры Ватыкане таксама ёсьць 35 прадстаўнікоў розных дзяржаваў і Ордэну Мальтанскіх Рыцараў. (К.А.Р.)

(КАП) — З прычыны 10-годзьдзя праўленьня Сьв. Айца Папы Пія XI паявілася шмат публікацыяў, якія выражаюць падзіў і пашану для яго ўсестароньняй дзеяльнасьці.

Нават бальшавікі, можа панявольна, гэта самае выражаюць у 12 нумары „Бязбожніка“ кажучы: „Перадусім трэба падчыркнуць нязвычайную чыннасьць кіраўніка каталіцкае царквы. Праз 2 апошнія гады ён абвесьціў чарод т. н. энцыклік, і падымае справы найважнейшыя цяперашняга жыцьця. Папа кажа ў іх аб выхаваньні моладзі, аб шлюбе, аб работніцкай справе, соцыялізме, крызысе і аб безпрацоўі. Але гэта ня ўсё, што робіць папа — трэба толькі глянуць у часопісь ватыканскую, каб пераканацца аб нязвычайнай рухлівасьці гэтага папы, асобы ў дадатку паджылай але вялікай працавітасьці і энэргіі. Пій XI карыстае з радыё каб адзывацца да ўсяго каталіцкага сьвету; рэдка пройдзе тыдзень, у якім бы ня прыняў дэлегацыі прыбываючых са ўсяго сьвету. Па большай часьці гэта дэлегацыі ад працаўнікоў і таварыстваў рамесьнічых, якіх Папа вельмі ахвотна бачыць у сябе. Кожнае гэткае прыймо бывае аказыяй да папскай прамовы, якая служыць усяму сьвету паказальнікам і праваднікам.“

Дзіўна, што бальшавікі здабыліся на гэткую бесстароннасьць.

(КАП) — У канцы траўня ў Варшаве будзе адкрыта выстаўка царкоўнага мастацтва. Мэта гэтай выстаўкі — пазнакоміць шырэйшыя кругі грамадзянства з цяперашнім станам царкоўнага мастацтва, і навязаць зносіны паміж мастакамі і царкоўнымі кругамі.

(КАП) — Бальшавікі вывозяць зрабаваныя з касьцёлаў і цэркваў званы заграніцу. Цяпер прышоў у Ротэрдам, праз Гамбург транспарт — 40 тон бронзу. Хаця яны папсаваны, каб ня можна было даведацца іхняга паходжаньня, а ўсё-ж такі ёсьць сьляды рысункаў з бібліі і сьвятых.

(КАП) — У сувязі з нарадамі аўстрыяцкага парляманту над рэарганізацыяй Рады Дзяржавы др. Айгнэр меў прамову, у якой кажа, што трэба абавязкова прыняць энцыкліку сьв. Айца Пія XI „Quadragesimo Anno“, як паказальнік, каб выйсьці з цяперашніх нязвычайных труднасьцяў, з якімі сустракаецца ўрад і грамадзянства. Арганізацыя палітычнага жыцьця прыняла цяпер гэткія формы, што стаецца

немагчымым супольнае жыцьцё адных з другімі. Абавязкам ёсьць глядзець на жыцьцё з хрысьціянскага погляду і проціў галасоў сацыялістаў паставіць тое, што кажа энцыкліка „Quadragesimo Anno“.

Трэба заўважыць, што гэта першы выпадак, калі з трыбуны парлямэнту гэтак вітаюць Папскае пасланьне.

---

**Друкарская памылка.**

У № 3 (стр. 5, 23) нашай часопісі ёсьць друкарская памылка. Замест: „Унія больш падыходзіць да жыцьця праваслаўнага, чым да лацінства“..., павінна быць: „Унія больш падыходзіць да жыцьця праваслаўнага, чым лацінства“...

(Рэдакцыя).

---